БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

22 лютага 1994 г.
Аўторак
№ 21(13737)
Кошт у розніцу 50 рублёў
Выдаецца з 1921 года

У НУМАРЫ:



Малюе Віктар ДУБОВІК



*Апошнім часам святы не ў модзе. Можа таму, што жыццё такое далёкае ад іх сваёй няўпэўненасцю і неўладкаванасцю. Але ж як бы там ні было, а кожны год на 23 дзень лютага мужчыны нейкія асабліва ўзнёслыя, прыгожыя і мужныя, а гэта значыць, настаў іх дзень. Дзень абаронцаў Айчыны і Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь — такую назву мае цяпер свята, якое прыйдзе ўжо заўтра і з якім мы шчыра павіншуем нашых дзядуляў, татаў, братоў, сыноў — словам, тых, каму выпала быць мужчынам.*





## Кур'ер "ЧЗ"

### Візіт латвійскага прэм'ер–міністра

*Учора прэм'ер–міністр Латвіі Валдзіс Біркаўс наведаў беларускую сталіцу з аднадзённым візітам.*

Адбыліся перамовы з прэм'ер-міністрам Рэспублікі Беларусь Вячаславам Кебічам. Падпісана восем міждзяржаўных дакументаў, у тым ліку — дагаворы аб дзяржаўнай граніцы, аб прававой дапамозе і прававых адносінах па грамадскіх, сямейных і крымінальных справах, двухбаковыя пагадненні аб прынцыпах гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва, аб спрошчаным парадку пропуску праз дзяржаўную граніцу грамадзян, якія пражываюць у прыгранічнай зоне, аб прамых чыгуначных сувязях, перавозцы грузаў ваеннага прызначэння з Рэспублікі Беларусь у трэція краіны праз марскія порты Латвіі.

На прэс-брыфінгу для беларускіх і замежных журналістаў абодва прэм'еры далі становучую адзнаку перамовам. Доктар В.Біркаўс адзначыў, што падпісанне пагадненняў — не адначасовы акт, а вынік двухгадовай працы. Падпісаныя дакументы дапамагаюць вырашыць комплекс пытанняў і, на думку латвійскага прэм'ера, прынясуць вялікую выгаду народам Латвіі і Беларусі. В.Кебіч падкрэсліў, што перамовы прайшлі лёгка, без рознагалоссяў, яны, упэўнены кіраўнік беларускага ўрада, выводзяць палітычныя і эканамічныя адносіны краін на новы высокі ўзровень.

Адбылася таксама сустрэча В.Біркаўса са Старшынёй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь М.Грыбам.

Якаў ЯСЭПКІН.

### У бліжэйшыя дні...

*Як паведаміў прэс–сакратар Старшыні Савета Міністраў Беларусі Уладзімір Замяталін, 18 лютага ў Маскве адбылася рабочая сустрэча Вячаслава Кебіча і Віктара Чарнамырдзіна.*

Падводзячы яе вынікі, два прэм'еры падкрэслілі, што гэта было завяршальнае абмеркаванне механізма функцыяніравання дзвюх дзяржаў ва ўмовах адзінай грашовай сістэмы. На сёння пытанне не стаіць, быць ці не быць адзінай рублёвай зоне ў дзвюх дзяржавах. Праблема ў тым, як яна павінна працаваць на карысць двух народаў у адзінай рынчанай прасторы.

Па даручэнню двух прэм'ераў экспертныя групы завершаць падрыхтоўку дакументаў на працягу двух-трох дзён. Канчатковае падпісанне іх чакаецца ў бліжэйшыя дні.

На сустрэчы былі пацверджаны асноўныя прынцыпы аб'яднання грашовых сістэм — безумоўнае адзінства цэнавай палітыкі і ўзаемавыгадныя курсы валют дзвюх дзяржаў.

### Перавядзём гадзіннікі

*На адну гадзіну наперад будуць пераведзены гадзіннікі жыхароў рэспублікі 27 сакавіка 1994 года ў 2 гадзіны ночы.*

Такое рашэнне прынята Саветам Міністраў Беларусі ў адпаведнасці з пагадненнем аб супрацоўніцтве па забеспячэнню адзінства вымярэнняў часу і частаты, падпісаным кіраўнікамі ўрадаў — членаў СНД у горадзе Бішкеку.

БЕЛІНФАРМ.

### Перамовы па сутнасці

*17 лютага рашэннем урада створана камісія па разгляду і правядзенню перамоваў па патрабаваннях прафсаюзаў прамысловасці рэспублікі, вылучаных 12 студзеня ў ходзе акцыі "Не — збядненню народа!".*

18 лютага адбылося першае пасяджэнне камісіі сумесна з прадстаўнікамі прамысловых прафсаюзаў Беларусі.

БелаПАН.

### "Салавей, салавей, пташачка..."

*І рэспубліканскі конкурс ваенна–патрыятычнай песні абвешчаны Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь.*

Галоўная мэта конкурсу — стварэнне разнастайнага рэпертуару для сучасных ваенных калектываў, прафесійных і самадзейных выканаўцаў. Самыя высокія пачуцці— патрыятызм, унутраная годнасць, шчырая любоў да Бацькаўшчыны і свайго народа — павінны быць лейтматывам новых песень.

У конкурсе змогуць прыняць удзел як прафесійныя, так і самадзейныя кампазітары, якія павінны прадставіць у журы новыя творы, што не выконваліся раней публічна.

Конкурс праводзіцца ў два этапы. Першы тур абвешчаны з 10 лютага па 19 мая. Лепшыя песні будуць адабраны на другі тур, а найбольш цікавыя творы ўвойдуць у песенны зборнік з мэтай распаўсюджання сярод вайскоўцаў, мастацкіх калектываў і выканаўцаў.

Міністэрствам культуры вызначаны і прэміі для пераможцаў; першая складзе 12 мінімальных зарплат, другая і трэцяя — адпаведна 10 і 9.

Майя ШЭНДРЫК.

### Жыць не хочацца...

*За ўсю гісторыю існавання Мінскага метрапалітэна ў ім спрабавалі скончыць жыццё самагубствам 4 чалавекі. Пра гэта паведамілі карэспандэнту "ЧЗ–інфарм" у службе руху метро.*

Дваіх з тых, хто хацеў такім шляхам адправіцца на той свет, выратавалі. Між тым, толькі ў 1993 г. у рэспубліцы добраахвотна пакінуць жыццё пажадалі 2874 чалавекі.

### А радыё маўчала...

*У суботу слухачы, прыхільнікі радыёстанцы "Беларуская маладзёжная", былі непрыемна здзіўлены. Справа ў тым, што ні ў суботу, ні ў нядзелю "Беларуская маладзёжная" не выйшла ў эфір.*

Афіцыйна было аб'яўлена, што гэта адбылося па тэхнічных прычынах. Але, як паведаміў карэспандэнту "ЧЗ-інфарм" намеснік галоўнага рэдактара "БМ" В.Сямашка, радыёстанцыя маўчала па вуснаму загаду старшыні Беларускай тэлерадыёкампаніі А.Сталярова.

Лідзія РЫЖАНКОВА.

### Гуляем у "кошкі–мышкі"?

*Не ведаем, як пакупнікі, а вось што мышы аблюбавалі некаторыя гандлёвыя кропкі ЖЛОБІНА, — гэта факт. Прадаўцы знайшлі даволі арыгінальны спосаб барацьбы з гэтымі агіднымі грызунамі: замест таго, каб звярнуцца па дапамогу ў мясцовае аддзяленне прафдэзінфекцыі, яны... пазаводзілі катоў.*

Органы санітарнага кантролю стараюцца змагацца з мышына-кашэчай навалай.

Франц ЛЯВІЦКІ.

### Курсы валют на 21 лютага:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Пошук" | 6100 | 6300 | 3250 | 3500 |
| "Комплекс" | 6100 | 6310 | 3530 | 3660 |
| "Бел-бізнесбанк" | 6000 | 6400 | – | – |
| "Прыор" | 6100(6700) | 6300 | 3500(3850) | 3650 |

*(У дужках — курс за безнаяўны разлік)*

ПАДЗЕІ ТЫДНЯ

## Калі Чарнамырдзін не едзе ў Мінск, то Кебіч адпраўляецца ў Маскву

□ Андрэй ВАСІЛЕВІЧ

*Мінулы тыдзень — тыдзень палітычнага страйка. З'ява, якая паступова перастае быць экзатычнай для Беларусі. На думку арганізатараў гэтай акцыі, яна ўдалася, на думку ўладных структур, яна з трэскам правалілася, не атрымаўшы падтрымкі сярод рабочых.*

Хто ж мае рацыю? На мой погляд, арганізатары страйка дамагліся больш-менш станоўчых вынікаў яшчэ ў ходзе падрыхтоўкі да 15 лютага. І сам дзень, якога ўлады чакалі, трымаючы напагатове моцныя сілы міліцыі і ўнутранага войска, стаў проста спектаклем. Ніхто нікога не чапаў, ніхто нікога не баяўся, ніхто нічога новага не сказаў.

У чым жа тады станоўчыя вынікі? Маючыя ўладу разумеюць, што працэс бясконцага таптання на месцы, канвеер выдачы абяцанняў з боку прэм'ер-міністра не паляпшае настрою ў людзей. Незадаволенасць рана ці позна праявіцца ў нейкай форме.

І таму вядомыя ўсім палітычныя сілы спяшаюцца не толькі парадаваць грамадзян, напрыклад, шчодрым прадчуваннем ад паглынання расійскай грашовай сістэмай нашых "зайцоў", але і легітымна аформіць уладаранне пэўных колаў. Вось у гэтай паспешлівасці і трэба шукаць тое станоўчае, што дапаможа грамадству вызначыць больш рэальны шлях да дэмакратыі.

Парламенцкая большасць па-рознаму ставіцца да свайго афіцыйнага лідэра, пра што даволі часта і даволі шчыра ідзе гаворка ў дэпутацкіх кулуарах. Іншая справа, што былая партыйная вывучка не дае сталым людзям адкрыта з трыбуны альбо ў прэсе выказаць сваю думку. Але факт супярэчлівага настрою існуе, яго лёгка спраецыраваць на ацэнкі, што маюцца ў грамадстве.

Тое-сёе ўяўленне аб магчымых лідэрах даюць сацыялагічныя выкладкі, хаця верыць ім без паправак на ангажыраванасць нельга.

На мой погляд, Вячаславу Кебічу будзе вельмі цяжка атрымаць мандат даверу і заняць прэзідэнцкае крэсла, калі яно будзе законным чынам усталявана. Не апошнюю ролю ў гэтым можа адыграць менавіта паспешлівасць уладных структур змяніць форму праўлення. Заўважце, ніхто нават не згадвае пра неабходнасць рэферэндуму. А народ не можа не бачыць, што афіцыйная прапаганда звужае кола прэтэндэнтаў на прэзідэнцкае крэсла.

Палітычны страйк ужо моцны тым, што яго можна аб'явіць. Як дыпламатычна выкручваліся кіраўнікі афіцыйных прафсаюзаў: яны, маўляў, за правядзенне выбараў, але супраць спынення прадпрыемстваў. І ўсё ж нават яны не выключаюць больш рашучых дзеянняў, калі Вярхоўны Савет прамарудзіць з вызначэннем даты выбараў.

Калі парламент здолее прыняць новае заканадаўства аб дзяржаўным уладкаванні, то розныя партыі і арганізацыі здолеюць вылучыць нямала сваіх кандыдатаў.

У няпростым становішчы знаходзіцца зараз маючы высокі рэйтынг дэпутат Аляксандр Лукашэнка. Дамогшыся адстаўкі Станіслава Шушкевіча, ён павінен уяўляць, што не мае іншага выбару, апрача жорсткай сутычкі з некаторымі членамі каманды В.Кебіча. Бо быць барацьбітом напалавіну, звальваць тых, хто па вялікаму рахунку не мае дачынення да карупцыі, значыць крывадушнічаць.

Паслядоўную пазіцыю імкнецца займаць Генадзь Карпенка. У дзень 15 лютага ён быў на плошчы Незалежнасці, а не выглядваў з-за вугла.

Нечакана цёпла прымаў Гомель адстаўнога кіраўніка парламента Станіслава Шушкевіча. Яго публічныя выступленні, паводле сведчання відавочцаў, павысілі аўтарытэт палітыка сярод гамяльчан.

Такім чынам, любое абвастрэнне палітычнай сітуацыі дае магчымасць больш дакладна ацаніць паводзіны магчымых лідэраў краіны. А іх пералік не абмяжоўваецца ўзгаданымі вышэй прозвішчамі.

Мінус, выяўлены спробай страйка, на мой погляд, такі: нашы людзі здольны толькі чакаць, што нейкі разумны і багаты дзядзька спусціцца з неба на верталёце і падорыць усім заможнае жыццё.

Прэзідыум Вярхоўнага Савета зрабіў заяву ў сувязі з уручэннем пакета патрабаванняў ад арганізатараў страйка. Ёсць там радкі, што мова ультыматуму недапушчальная. Безумоўна, ад мовы ультыматумаў да мовы зброі недалёка, што не можа быць нармальным у цывілізаваным свеце.

Праўда, у членаў Прэзідыума не знайшлося мужнасці, каб даць ацэнку сваёй колішняй заяве аб датэрміновых выбарах у сакавіку. Навошта было людзям кідаць цукерку-падманку? Што гэта, палітычнае верхаглядства ці звычайны падман? Трэба ўсё-такі прызнаць, што падобныя заявы, а дакладней несур'ёзныя адносіны да іх выканання, абражаюць сумленных грамадзян. Шкада, што Прэзідыум ухіляецца ад прынцыповай ацэнкі.

Не толькі мінулы тыдзень, а два мінулыя месяцы Беларусь чакала прыезду прэм'ер-міністра Расіі Віктара Чарнамырдзіна. Адна маскоўская газета нават паведамляла, што ён ужо паляцеў у Мінск. Ды чаканне было дарэмным. Гэта моцна перашкаджала нашаму прэм'ер-міністру. Тады Вячаслаў Францавіч сам адправіўся ў Маскву. ■

## КРЫЗІС У НАС ЦІ НЕ КРЫЗІС?

*Пытанне аб эканамічным стане нашага грамадства стала ўжо жупелам, якім з задавальненнем карыстаюцца ў сваіх мэтах розныя палітычныя сілы рэспублікі.*

Стан, безумоўна, складаны. Але ці крызісны ён? Галоўны паказчык крызісу — беспрацоўе, як асноўная прычына, якая можа справакаваць сацыяльны выбух. Паводле падлікаў эканамістаў, узровень беспрацоўя пры крызісным стане эканомікі павінен перавышаць 18 працэнтаў ад агульнай колькасці працуючых. Сёння ўзровень беспрацоўя на Беларусі складае ўсяго 3 — 6 працэнтаў. У асноўным бяда ахапіла машынабудаванне. Але пераскочыла ўсякія межы так званае скрытае беспрацоўе (калі людзі знаходзяцца ў вымушаным адпачынку, працуюць па тры дні на тыдзень і г.д.) Беспрацоўе такога кшталту складае каля 30 працэнтаў — што ўжо за межамі крызіснага стану. Неслабыя тэмпы ўзяла інфляцыя — каля 46 працэнтаў у месяц. У той час як ніжэйшая планка гіперінфляцыі — 30 працэнтаў.

У апошнія месяцы ніхто ўсур'ёз ужо не лічыць спажывецкі кошык. Як заявілі ў Камісіі па пытаннях працы, цэн, занятасці і сацыяльнай абароны насельніцтва Вярхоўнага Савета, ніхто з эканамістаў ці медыкаў сёння не скажа, які набор, якой якасці прадуктаў сёння павінен мець спажывецкі кошык. У гэты момант ён яшчэ і яблык разладу паміж прафсаюзамі і Саветам Міністраў. А ўвогуле ўсё залежыць ад бюджэту, да магчымасцей якога і падганяюць кошык.

Многія эканамісты лічаць, што падобны крызісны стан можа цягнуцца даволі доўга, нават дзесяткі год. Больш энергічныя прагнозы выдаюць тыя палітыкі, якія сёння не пры ўладзе. Яны не стамляюцца пагражаць сацыяльным выбухам. Даўнейшыя прагнозы адносна таго, што першымі не вытрымаюць прафсаюзы,відаць, пачынаюць спраўджвацца.

Лілія ГРЫНЯВЕЦКАЯ. ■

## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА



*Дзяжурныя па выпуску: перакладчыкі С.КІРЫЕНКА, Д.ЛІТВІН, рэдактар П.СІМАНАЎ.*

### "Супер чэннэл"

#### БУТРАС ГАЛІ СУПРАЦЬ БАМБАРДЗІРОЎКІ

*Генеральны сакратар ААН Бутрас Галі лічыць немэтазгодным бамбіць тэрыторыі, на якіх да гэтага часу знаходзіцца цяжкая зброя сербаў.*

У той жа час ён заявіў пра тое, што вядомы ультыматум ужо больш-менш разрадзіў абстаноўку вакол Сараева.

#### КАРАБЕЛЬ З "ДВАЙНЫМ ДНОМ"

*46 нелегальных пасажыраў знойдзена шведскімі ўладамі ў кантэйнеры аднаго з суднаў.*

Судна прыбыло з эстонскага горада Таліна і накіроўвалася ў Стакгольм. Паводле паведамлення паліцыі, там знаходзіліся курды ў небяспечных для жыцця ўмовах. Сярод іх было 27 дзяцей. Курды заплацілі па 2 тысячы даляраў нейкай пасрэдніцкай фірме, якая ўзялася пераправіць іх у Швецыю і дапамагчы там атрымаць палітычнае прыстанішча.

### "Еўраньюс"

#### ПРАЕЗД ЗАКРЫТЫ!

*Швейцарыя прыняла закон, паводле якога забараняецца транзіт грузавых аўтамабіляў па яе тэрыторыі.*

За ўвядзенне гэтага закона выказаліся 52 працэнты апытаных пад час спецыяльнага сацыялагічнага даследавання.

#### СУПРАЦЬ РЭСПУБЛІКАНЦАЎ

*У нямецкім горадзе Ульме адбылася дэманстрацыя пратэсту супраць праходзячага з'езда рэспубліканскай партыі краіны.*

У выніку сутычкі паміж паліцыяй і дэманстрантамі 1 чалавек атрымаў раненне, сем арыштавана. Прычынай сутычкі стала тое, што некалькі соцень дэманстрантаў паспрабавалі прарвацца да памяшкання, дзе праходзіў з'езд.

### "TV-5"

#### ЗДЗЕЛКА СТАГОДДЗЯ

*Вялікую шуміху на Захадзе выклікала заключанае ўчора пагадненне паміж дзвюма буйнейшымі амерыканскімі авіябудаўнічымі кампаніямі і ўрадам Саудаўскай Аравіі на будаўніцтва 50 авіялайнераў.*

Сума здзелкі ацэньваецца ў 6 мільярдаў даляраў. Заключанае пагадненне выклікала вялікае задавальненне прэзідэнта ЗША Клінтана. Праект дасць магчымасць дадаткова стварыць больш чым 100 тысяч працоўных месцаў.

#### БАСТУЮЦЬ... БАНКІРЫ

*У Індыі банкаўскія служачыя выйшлі на вуліцы з патрабаваннем адмяніць рашэнне ўрада аб закрыцці некаторых банкаў.*

Як адзначаецца, гэты крок урада накіраваны на тое, каб павысіць даход астатніх банкаў.

### "Уорлднэт"

#### ВЫБУХІ Ў БЕЛФАСЦЕ

*У Белфасце зноў адбыўся шэраг выбухаў у магазінах і рэстаранах.*

На шчасце, ніхто з людзей не пацярпеў. Паліцыя лічыць вінаватай у выбухах адну з падпольных груповак.

#### ЗАГАД: АГНЮ НЕ АДКРЫВАЦЬ

*У Йемене падпісаны дагавор аб спыненні агню і перамір'і паміж варожымі групоўкамі.*

Сустрэча варагуючых бакоў праходзіла пад эгідай і пры асабістым удзеле караля Іарданіі Хусейна.

(Працяг на 3-й стар.).

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ

## БІЗНЕС-КЛАС

Вядучая рубрыкі Вера ПАЛЯКОВА

Тэл. 68-28-52

### ПРАЗ ВЫСТАВЫ – ДА РЫНКУ?

Пакуль наш урад шукае шляхі пераходу да рынку, немцы прапаноўваюць нам мадэлі канкрэтных дзеянняў і сваю падтрымку. Днямі, напрыклад, нямецкая фірма "Дойчэ Месэ АГ", адкрыла ў Мінску сваё прадстаўніцтва.

"Дойчэ Месэ АГ" арганізуе каля 60 выстаў і кірмашоў кожны год і з'яўляецца буйнейшым выставачным таварыствам у свеце. Нямецкая фірма плануе вельмі актыўна супрацоўнічаць з Беларуссю. Так, у мінулым годзе некаторая частка выставачнай плошчы для беларускіх прадпрыемстваў была афармлена за нямецкі кошт. З нашых заводаў і вытворчых аб'яднанняў у выставах удзельнічалі завод пячатаных плат, завод шасцерняў, маторны завод, Мінскі і Гомельскі падшыпнікавыя заводы, аб'яднанне "Белтэхніка".

Лідзія РЫЖАНКОВА.

### БЕЛАРУСЬ У СВЕЦЕ ЭКАНОМІКІ

Каля 60 працэнтаў прадукцыі, што стваралася ў Беларусі, ішла ў міжрэгіянальны абмен у межах былога СССР і толькі 4 працэнты вывозілася за яго межы.

Беларусь вывозіць у іншыя рэспублікі СНД 47 працэнтаў прадукцыі, створанай прамысловасцю. У тым ліку: 75 працэнтаў прадукцыі хімічнай і нафтахімічнай, 66 працэнтаў — машынабудавання, 35 працэнтаў — лёгкай, 20 працэнтаў — харчовай прамысловасці.

У іншыя рэгіёны вывозіцца 81 працэнт агульнай вытворчасці грузавых аўтамабіляў, 74 працэнты трактароў, 90 працэнтаў скрэпераў і экскаватараў, 73 працэнты металарэзных станкоў. Пры забеспячэнні насельніцтва спажывецкімі таварамі машынабудавання па нормах рацыянальнага спажывання на 50—65 працэнтаў за межы рэспублікі пастаўляецца каля 90 працэнтаў агульнага выпуску халадзільнікаў, амаль 80 працэнтаў тэлевізараў, каля 62 працэнтаў радыёпрыёмных прыстасаванняў.

Сельская гаспадарка забяспечвае 22 працэнты валавога нацыянальнага прадукту і 19 працэнтаў нацыянальнага даходу. Вывозіцца недзе 20 працэнтаў мяса, 25 працэнтаў малака і 27 працэнтаў бульбы.

### ПАДАТКІ РАСТУЦЬ, А ЭКАНОМІКА...

Як паведаміў прадстаўнік Федэрацыі прафсаюзаў Рэспублікі Беларусь, узровень падатковага абкладання ў нашай рэспубліцы няўмольна расце. Калі ў 1992 годзе ён склаў 40,2 працэнта валавога нацыянальнага прадукту, то ў мінулым годзе — 45,9 працэнта. Памяншэння не прадбачыцца.

Як вядома, падатковы прэс — гэта не толькі грошы ў бюджэт, але і адлічэнні ў разнастайныя пазабюджэтныя фонды: фонд рэгулявання рознічных цэн, дарожны фонд, фонд занятасці, пенсіённы фонд і г.д. Гэтая форма падаткаабкладання вельмі папулярная на Беларусі. Між тым, звесткі па выкарыстанню фінансавых сродкаў гэтымі арганізацыямі амаль не трапляюць на старонкі друку. Больш таго, падаткі ў гэтыя фонды адлічваюцца ад рэалізацыі прадукцыі, тавараў, стварэння разнастайных работ, паслуг, што дрэнна ўздзейнічае на эканоміку. Паводле падлікаў спецыялістаў, адзін працэнт апошняга адлічэння ад рэалізацыі ў пазабюджэтныя фонды мясцовых Саветаў народных дэпутатаў роўны 3—3,5 працэнта падатку на дабаўленую вартасць.

### ВЕСТКІ З САЮЗА ПРАДПРЫМАЛЬНІКАЎ

Сёння ў Мінску ў рамках праграмы гарвыканкама адбудзецца сустрэча бізнесменаў і прадпрымальнікаў Беларусі з мэрамі сталіц краін Садружнасці. Мяркуецца, што гэта сустрэча паспрыяе ўмацненню і паглыбленню эканамічнага супрацоўніцтва, развіццю прадпрымальніцкай дзейнасці і дзелавых сувязей паміж краінамі блізкага замежжа.

* * *

25 лютага пачне работу чарговы IV з'езд прадпрымальнікаў Рэспублікі Беларусь, які збярэ каля 500 дэлегатаў з усёй рэспублікі. На парадку дня вынікі працы Саюза, абмеркаванне асноўных накірункаў дзейнасці, прыняцце падказаных часам змяненняў у Статуце Саюза прадпрымальнікаў і іншае.

"ПАС" — палітыка-аналітычная служба

# Парламенцкія выбары: механізм і сутнасць

☐ Аляксандр ЛОЙКА, палітолаг

*Парламент з'яўляецца адным з самых важных інстытутаў палітычнай дэмакратыі. Інстытутам пастаянным, але выбарным, паколькі мяняюцца не толькі людзі, але і інтарэсы грамадства. Апошнія і стаяць у цэнтры ўвагі парламента, і адлюстроўваюцца ў форме законаў, у тым ліку і асноўнага — Канстытуцыі дзяржавы.*

Такім чынам, насельніцтва краіны ў сярэднім раз у 4—5 гадоў выбірае сваіх прадстаўнікоў у парламент для таго, каб яны прафесійна адлюстроўвалі яго інтарэсы. Ні адно грамадства не з'яўляецца аднародным, паколькі не аднолькавыя прафесійныя, эканамічныя, духоўныя інтарэсы розных груп насельніцтва. Таму кожная з груп імкнецца арганізаваць сваю дзейнасць у форме парламенцкай партыі, гэта значыць партыі, якая асноўную дзейнасць накіроўвае на паспяховае правядзенне выбарчай кампаніі, удзел у працы парламента па выніках выбараў. Калі грамадства не вельмі добра арганізавана па партыйнаму прынцыпу, то яно карыстаецца праявай палітычнай актыўнасці некаторых асоб, лічачы абяцанні прымальнымі і даволі дзейснымі. Пераходнай формай паміж арганізаванай партыяй і актыўнасцю асобы з'яўляюцца народныя рухі, франты, якія недастаткова арганізаваны, але ўяўляюць сабой значны колькасны фактар палітыкі.

Механізм правядзення парламенцкіх выбараў павінен быць адлюстраваны ў Канстытуцыі, канкрэтызуючым яе законе аб выбарах. Гэты механізм уключае: 1) арганізацыйны момант, звязаны з сістэмай падрыхтоўкі правядзення выбараў; 2) перадвыбарчую кампанію з выкарыстаннем электронных сродкаў інфармацыі; 3) непасрэднае правядзенне выбараў; 4) падлік вынікаў выбараў; 5) унутраныя працэсы арганізацыі новага саставу парламента.

Паколькі ў любой дэмакратычнай краіне існуе мноства партый, то для нармальнай працы парламента звычайна ўстанаўліваецца працэнтны бар'ер, які пераходзіць партыя, атрымаўшая звыш 5 працэнтаў галасоў ад агульнай колькасці выбаршчыкаў краіны. Напрыклад, па ўсіх выбарчых акругах свае спісы выставілі дэмакратычная, рэспубліканская, ліберальная, сацыялістычная партыі і г.д. Першыя чатыры перайшлі бар'ер 5 працэнтаў. Значыць, яны трапляюць у парламент. Далей ідзе падлік працэнтаў галасоў, што яны атрымалі. Напрыклад, дэмакратычная — 70 працэнтаў, рэспубліканская — 20, ліберальная, сацыялістычная — 5 працэнтаў. Калі адна з партый набрала абсалютную большасць галасоў выбаршчыкаў, то яна атрымлівае большасць парламенцкіх месцаў, а таксама права на фарміраванне аднапартыйнага кабінета міністраў. Для выбаршчыкаў такая раскладка вельмі выгадная, паколькі яны ведаюць, хто 4—5 гадоў вызначае палітыку краіны і нясе за яе адказнасць да наступных выбараў. Кабінет міністраў таксама можа спакойна працаваць свой тэрмін, паколькі парламенцкая большасць заўсёды яго падтрымае. Дарэчы, такая сітуацыя цяпер існуе ў Вярхоўным Савеце нашай дзяржавы. Праўда парламенцкая большасць і ўрад В.Кебіча не маюць дакладнай партыйнай назвы.

Па выніках галасавання можа скласціся сітуацыя адноснай большасці адной з партый над іншымі. Тады, каб дабраць неабходную колькасць галасоў у парламенце, гэтая партыя можа заключыць парламенцкую згоду з партыяй найбольш блізкай да яе праграмы. Вынікам такой згоды з'яўляецца ўзнікненне парламенцкага блоку і стварэнне кааліцыйнага ўрада. Так, у ФРГ партыйны блок ХДС/ХСС пайшоў на парламенцкую згоду са свабоднымі дэмакратамі — партыяй Г-Дз.Геншара, якая набрала крыху больш за пяць працэнтаў галасоў на выбарах, але гэтага было дастаткова каб ХДС/ХСС атрымала перавагу над сацыял-дэмакратамі. Апошнія вымушаны былі пайсці ў апазіцыю і стварыць ценявы кабінет. Дарэчы, доўгі час тыя ж сацыял-дэмакраты карысталіся паслугамі свабодных дэмакратаў. Адзначаная сітуацыя ў парламенце, такім чынам, стварае унікальныя магчымасці парламенцкай дзейнасці для невялікіх партый. Разам з тым, кааліцыя партый — справа складаная. Яна патрабуе высокай культуры кампрамісу. У ФРГ такая культура напрацавана. А вось у Італіі яна так і не з'явілася. У выніку парламент і парламенцкія партыі гэтай краіны аказаліся ў вострым крызісе. Нестабільнасць парламента адбіваецца і на нестабільнасці кааліцыйных урадаў. У той жа Італіі рэдка які ўрад мог доўга пратрымацца. Перашкаджалі ўнутраныя спрэчкі.

Пры разглядзе выбараў у парламент трэба мець на ўвазе тое, што партыі, якія не набіраюць 5 працэнтаў галасоў выбаршчыкаў, не пакідаюць вялікую палітыку. Свой шанц яны могуць скарыстаць у наступных выбарах. Канешне, пры ўмове, што будзе зроблены належны аналіз прычын няўдачы. Пры правядзенні парламенцкіх выбараў звычайна ўлічваецца і тое, што ў любым грамадстве існуе група насельніцтва, якая не звязвае сваю актыўнасць з партыямі, таму ў парламенце краіны даецца суадносна колькасці такіх людзей у агульнай колькасці выбаршчыкаў пэўная колькасць месцаў для незалежных кандыдатаў, якія праходзяць аналагічна партыйным спісам па ўсіх выбарчых акругах і трапляюць у парламент па прынцыпу большасці галасоў.

На ўсіх этапах правядзення парламенцкіх выбараў вельмі важную ролю адыгрывае кантроль за іх ходам, які звычайна ажыццяўляецца прадстаўнікамі парламентаў іншых краін, палітычных партый.

ЭКАНОМІКА

# І добрую ідэю можна сапсаваць

☐ Андрусь ДЫЛЮК

*Хаця падпісанне пагаднення аб адзінай рублёвай зоне ўжо стала фактам, дыскусіі аб яго мэтазгоднасці не сціхаюць. Але звычайна спрэчкі адбываюцца на палітычнай глебе: адны выступаюць супраць, бо кажуць, што аб'яднанне грашовых сістэм прывядзе да страты дзяржаўнай незалежнасці; другія, выступаючы за аднаўленне былой паўфедэрацыі–паўімперыі, кажуць аб неабходнасці гэтага кроку, як і іншых: ваеннага саюза, палітычнага саюза. (А ўрад разрываецца паміж двух агнёў — то за незалежнасць, то за калектыўную бяспеку). Але давайце пакінем палітычную частку пытання нашым палітыкам (хай яны спачатку самі разбяруцца) і разгледзім гэтую праблему ў эканамічным аспекце.*

Наш урад хоча знітаваць у адзін бок два пытанні — аб'яднанне грашовых сістэм і зніжэнне цэн на энерганосьбіты, за якія, паводле слоў старшыні Нацыянальнага банка С.Багданкевіча, мы плацім: за нафту ў 3,5 раза, за газ у 2 разы болей, чым расійскія спажыўцы. Сярод расійскіх эканамістаў і прамыслоўцаў шмат праціўнікаў такога падыходу, бо атрымаецца, што Расія страціць каля 1,6 трыльёна рублёў, акрамя гэтага, інфляцыя павысіцца на 10 працэнтаў.

Умовы, якія прапануе беларускі бок, прыводзяць да таго, што ідэя эканамічнай інтэграцыі будзе ўшчэнт спляжана, а мерапрыемства канчаткова і з трэскам праваліцца. Па-першае, аб'яднанне магчыма толькі тады, калі будзе існаваць адзіны эмісійны цэнтр (зараз плануюцца два: Нацбанк Рэспублікі Беларусь і Цэнтрабанк РФ). Па-другое, неабходна адзінства бюджэтнай сістэмы. Гэта значыць, што памеры бюджэтаў, іх дэфіцыты павінны быць узгодненымі. А гэта на практыцы будзе рэалізавана праз зацвярджэнне нашага бюджэту расійскай Думай. Па-трэцяе, усе валютныя рэзервы павінны быць сканцэнтраваны ў адзіным цэнтры. Па-чацвёртае, павінна быць уніфікавана заканадаўства, найперш тое, што тычыцца банкаўскага абсягу, падаткаў, увогуле эканомікі. Калі гэтыя пункты не будуць улічаны, створацца ўмовы для некантралюемага росту інфляцыі, якая праглыне ўсе станоўчыя вынікі аб'яднання.

Наша кіраўніцтва хоча быць адначасова і ўрадам суверэннай дзяржавы (які гонар на афіцыйных сустрэчах за мяжой!), і адначасова мець адзіную рублёвую зону.

Лічу, што лепш было б стварыць не адзіную рублёвую зону, а валютны саюз. А калі ствараць адзіную рублёвую зону, суверэнітэт не патрэбны. Пазіцыя ўжо тых, хто выступае за ўвядзенне нацыянальнай валюты і суверэнітэт, выглядае ў шмат разоў больш лагічнай і прадуманай.

А чаму б нам не ўвайсці ў адзіную даляравую зону. І таксама дамовіцца пра два эмісійныя цэнтры: акрамя амерыканскай ФРС, дазволіць друкаваць даляры і Нацыянальнаму банку Рэспублікі Беларусь. А "зайцоў" памяняць на даляры для насельніцтва па курсу 1:1. Гэта ж якая выгада! Праўда, пры гэтым у ЗША, а таксама ў іншых капіталістаў-імперыялістаў адбудзецца рэзкі скачок інфляцыі, а курс даляра ўпадзе.

Гэта, безумоўна, жарт. Але ён наводзіць на думку аб тым, што перамовы экспертаў могуць зайсці ў глыбокі тупік.

Эканамічная інтэграцыя — рэч аб'ектыўная. Яе стрымаць немагчыма, ніякія мытні і межы не дапамогуць. Але падштурхоўваць яе таксама не варта, бо гэта небяспечна. Усё павінны ісці натуральным шляхам. У эканоміцы для прыняцця якога-колечы рашэння павінны быць перадумовы. Еўрапейскія краіны прайшлі доўгі эвалюцыйны шлях: у 50-я гады былі створаны мытныя саюзы, у 90-я — адзіная мытная прастора, і толькі 2 гады назад — грашовы саюз (на адзіную валюту яшчэ дагэтуль не перайшлі, хаця яна ўжо існуе ў прыродзе). Праўда, у нас крыху іншыя ўмовы, чым у Еўропе, але, як сказаў Ягор Гайдар, аб'яднанне грашовых сістэм — не справа двух тыдняў.

Расійскія эканамісты будуць дамагацца рэзкага абмежавання крэдытнай эмісіі (бо ў нас яна адносна большая). Гэта прывядзе да таго, што наша сельская гаспадарка крэдытаў не атрымае, пачнецца банкруцтва калгасаў, дзе людзі па некалькі месяцаў не атрымліваюць зарплаты, не будзе сродкаў на пасяўную кампанію. У такіх умовах урад не здолее ўтрымаць цэны на хлеб і малако.

Ды і само аб'яднанне, калі яно адбудзецца, палёгкі не прынясе. Павысяцца цэны на прадукты харчавання і ў самой Расіі. Гэта звязана з тым, што на многія прадукты там устаноўлены (як і ў нас) фіксаваныя цэны, датацыі на іх пакрыццё ідуць з бюджэту Расіі. А бюджэт Расіі ў значнай ступені фарміруецца за кошт падаткаў на экспарт энерганосьбітаў, доля якіх у структуры экспарту займала ў мінулым годзе амаль 50 працэнтаў. А ў цане нафты, якую мы атрымліваем з Расіі, 50 працэнтаў займалі падаткі, калі казаць пра цану бензіну, то ўсе 70 працэнтаў. Адбывалася тое, што нашы спажыўцы фінансавалі праз гэтыя падаткі расійскі бюджэт. І цяпер, калі наш урад дамовіцца з расійскім аб зніжэнні цаны на нафту, адпаведна зменшацца і паступленні ў расійскі бюджэт (бо яны павінны будуць адмяніць ці зменшыць падаткі да ўзроўню тых, якія плацяць расіяне). Калі зменшацца паступленні — неабходна будзе скараціць датацыі на пакрыццё сабекошту на прадукты харчавання. Прыйдзецца "дабіраць" неабходныя сродкі за кошт павышэння цэн. Растуць цэны — расце інфляцыя. Вось такі невясёлы малюнак.

Рэформы праводзіць усё роўна прыйдзецца — хочам мы гэтага ці не. Ці падштурхне да іх аб'яднанне грашовых сістэм? Многія эканамісты лічаць, што падпісанне пагаднення ў цяперашнім варыянце прадыктавана хутчэй палітычнымі матывамі, чым эканамічнай мэтазгоднасцю. Каб пагадненне працавала, каб не разбурала эканоміку — неабходна больш жорстка ўсталяваць параметры сістэмы. Інакш такое пагадненне проста шкоднае. Тады ўжо лепей сваю валюту ўвесці.

ДЗЕЦІ І МЫ

## БЯЗДОМНЫЯ ІКОНЫ

*Дзіцячая школа іканапісу і прыкладных мастацтваў працуе пры Кірыла–Мяфодзіевым праваслаўным брацтве. Усе выхаванцы пачыналі сваё духоўнае выхаванне ў нядзельных праваслаўных школах. Толькі такі шлях, лічыць кіраўнік студыі Вячаслаў Іванавіч Шугала, дапамагае юным мастакам зразумець вытокі старажытнага мастацтва.*

*— Раней дзеці прыходзілі ў цэнтр пазашкольнай работы Ленінскага раёна Мінска, дзе мы размяшчаемся, у любы час,— расказвае Вячаслаў Іванавіч.— Зараз жа ў студыі працуюць і дарослыя мастакі. Нам жа выдзелілі ўсяго два дні. Гэтага, вядома, вельмі мала. У маленькай студыі працуюць адначасова па 12—15 чалавек. Праўда, плануем адкрыць яшчэ адну школу па Лагойскаму тракту, але і тут хацелася б знайсці ўзаемаразуменне з кіраўніцтвам. Бо студыя ж наша — унікальная.*

Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ.

100 артыкулаў

# БЕЛАРУСКІЯ

*БЕКЦІНЕЕЎ Шаміль Іршатавіч, навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН Рэспублікі Беларусь, кандыдат гістарычных навук. Даследуе праблемы грашовага абароту і метралогіі X—XVI стст. на тэрыторыі Беларусі. Па гэтых пытаннях, а таксама па ваеннай тэматыцы канца XVIII — пачатку XX ст. напісаў звыш 60 навуковых, навукова–папулярных, энцыклапедычных і публіцыстычных артыкулаў. Вызначыў рэгіянальную, фактычна самастойную грашова–вагавую сістэму, якая функцыяніравала ў XIII—XIV стст. у Полацка–Віцебскім Падзвінні.*

Апошнія 2—3 гады ў перыядычным друку дыскуціруецца пытанне аб нацыянальных грашовых адзінках беларусаў. Маюцца дзве дыяметральна процілеглыя думкі. Адны лічаць такімі адзінкамі, што гістарычна склаліся на тэрыторыі Беларусі, "рубель" і "капейку". Іншыя імкнуцца даказаць, што гэта "талер" і, у апошні час, "шэляг". Апошнія сцвярджаюць гэта безапеляцыйна. У такім меркаванні бачыцца ненавуковы падыход. Хутчэй гэты погляд прасякнуты палітычнымі захадамі. Але ніхто з гісторыкаў-"дэмакратаў" нават не спрабуе асвятліць гісторыю з'яўлення і развіцця вышэйназваных грашовых адзінак на тэрыторыі Беларусі. Яны заяўляюць, што быццам бы рубель штучна прыўнесены на тэрыторыю Беларусі, не жадаючы бачыць, што менавіта талер і шэляг (шылінг) і былі прымусова ўкаранёны ў грашовы абарот Вялікага княства Літоўскага (далей — ВКЛ), куды з сярэдзіны XIII — другой чвэрці XVI ст. уваходзілі сучасныя беларускія землі.

Па дадзенай тэме вельмі важна адказаць на пытанне "Калі і як з'явіліся рубель, талер, капейкі і шэляг?" Найбольш ранняе ўпамінанне рубля як грашовай адзінкі мы бачым у берасцяной грамаце канца XIII ст., знойдзенай у 1952 г. у Ноўгарадзе ў час археалагічных раскопак. Рубель у XIII—XIV стст. меў выгляд палачкападобнага сярэбранага злітка наўгародскага тыпу, але меншай вагі, чым грыўна (204,75 г), г.зн. 196,2 г. З'яўленне новых грашовых адзінак заўсёды рана ці позна фіксуецца ў пісьмовых крыніцах. Так вядома "Скарга рыжскага магістрата віцебскаму князю 1298 г. аб уціску і крыўдах, якія чыніліся ў Віцебску нямецкім купцам", з якой мы даведваемся аб новай грашовай адзінцы — "ізрої" тэарэтычнай вагой у 108,0 г. Гэта грашовая адзінка практычна аформілася ў трэцяй чвэрці XIII ст. Матэрыяльна "ізрой" — гэта палачкападобны сярэбраны злітак з некалькімі ўвагнутасцямі на спінцы рэальнай вагой 100—105 г. У даследчыкаў ён вядомы пад назвай "заходнерускай ці літоўскай грыўны". Упамінанне яе ў дакуменце канца XIII ст. (каля 1298 г.) наводзіць на думку, што на тэрыторыі Беларусі ў карыстанні была яшчэ нейкая грашовая адзінка. Відаць, гэта быў або наўгародскі ці нават свой рэгіянальны рубель. Існаванне мясцовага рубля пацвярджаецца звесткамі двух дакументаў пачатку XIV ст.: у адным гаворыцца пра грыўну ў 50 пражскіх грошаў, а ў другім — пра рубель у грошах. Пражскія грошы ў Полацка-Віцебска-Смаленскае Падзвінне пачалі паступаць у першым дзесяцігоддзі гэтага стагоддзя. На гэта ўказваюць адзінкавыя знаходкі пражскіх грошаў, чаканеных у 1300—1310 гг. Усё гэта дае падставу з упэўненасцю сказаць, што рубель на тэрыторыі Беларусі з'явіўся амаль адначасова з наўгародскім, прыкладна да 1305 г., і прытым на сваёй метралагічнай аснове — на нагаце вагой 1,8 г (у Ноўгарадзе — 1,87 г) і пражскім грошы рэальнай вагой 3,78 г. Тады тэарэтычная вага мясцовага рубля раўнялася 189,0 г (1,8 г х 105 нагат ці 3,78 г х 50 грошаў).

Талер або іёахімсталер, як манета, з'явілася толькі ў 1518 г. у Іёахімстале (Чэхія). Першапачаткова ён меў назву "гульдэнгрош". З 1525 г. гэтыя манеты называліся "іёахімсталерамі", пазней — "шлікталерамі", і толькі ў 30-х — пачатку 40-х гадоў XVI ст. іх пачалі называць "талерамі". На тэрыторыі сучаснай Польшчы першы талер быў адчаканены ў епіскапстве Брэслаў (цяпер Вроцлаў) у 1540 г., а ў Польскім каралеўстве толькі ў 1567 г. у Гданьску. На тэрыторыі Беларусі паводле пісьмовых крыніц талер упершыню ўпамінаецца толькі ў 1555 г.

Упершыню ў ВКЛ талер быў адчаканены на віленскім манетным двары ў 1580 г., г.зн. амаль на 290—300 гадоў пасля з'яўлення ў Полацка-Віцебскім Падзвінні мясцовага рубля. А.Дзярновіч жа заяўляе, што быццам бы польскі талер з'явіўся на Беларусі ўжо ў 1529 г. Але справа ў тым, што ў гэты час, як было адзначана вышэй, у Польшчы талеры яшчэ не чаканіліся. Спасылка на каталог польскіх манет Э.Капіцкага (2-гі том) неправамерная, паколькі пад 1529 г. вядомы "фальсіфікаты Майнерта", якія ніколі не існавалі ў прыродзе. Яны дадзены ў каталогу, каб даследчыкі і нумізматы-калекцыянеры не паддаліся на гэты зман. Не разабраўшыся з матэрыялам, А.Дзярновіч, такім чынам, дапусціў "фальсіфікацыю ў квадраце" (фальсіфікацыя, заснаваная на фальсіфікацыі). Разменнай манетай талера былі аўстрыйскія (сілезскія) і польскія грошы. А апошнія ўводзіліся сілай не толькі на тэрыторыі Беларусі, але і ва ўсім Вялікім княстве Літоўскім. Вядомы ўказ караля польскага і вялікага князя літоўскага Жыгімонта І ад 8 чэрвеня 1508 г. аб прымусовым увядзенні ў грашовы абарот ВКЛ польскіх грошаў. Купцам, якія адмаўляліся прыняць іх, пагражаў штраф і канфіскацыя тавараў. Талер раўняўся 30 польскім ці 24 літоўскім грошам. Рубель жа ў гэты час каштаваў 100 пражскіх або 140 літоўскіх грошаў, г.зн. амаль 6 талераў. Розніца паміж імі была ў тым, што рубель як грашовы знак выступаў у канцы XIII — сярэдзіне XV ст. (злітак), у 1654—1655 гг. (у Расіі "яфімак з прыкметай" — надчаканкі "Св.Георгій" і даты "1654" ці "1655"), з 1704 г. рэгулярна чаканіўся ў Расіі як манета (адпаведная 100 капейкам). Яфімкі з вышэй названай прыкметай і рублі сустракаюцца ў беларускіх скарбах, толькі першыя вельмі рэдкія. З другой паловы XV ст. да пачатку XVIII ст. рубель выкарыстоўваўся як лічыльная адзінка, "яфімкі з прыкметай" (талеры з надчаканкай) ніякага ўплыву на грашовы абарот ВКЛ не аказалі. Талер жа ўвесь час, як грашовы знак, выкарыстоўваўся паралельна з рублём да 1840 г. Але неабходна адзначыць, што рускі рубель на тэрыторыі Беларусі выкарыстоўваўся з XVIII ст.

У другім сваім артыкуле ("Шэляг як беларуская разьменная манэта" "Бел.калекцыянер". Сьнежань 1993 года. С.2) А.Дзярновіч спрабуе пераканаць беларускага чытача, што дробнай грашовай адзінкай беларусаў можа быць толькі "шэляг". Нягледзячы на "гістарычную" даведку, яго вывад зусім няправільны па некалькіх пазіцыях.

Першае. А.Дзярновіч запэўнівае, спасылаючыся на вядомага беларускага нумізмата В.Рабцэвіча, што "шылінг" або "шэляг" у XIV—XV стст. з'яўляўся ў Вялікім княстве Літоўскім больш распаўсюджанай манетай, чым літоўскія пенязі. Сапраўды, ёсць адзін дакумент 1388 г., дзе гаворыцца аб выплатах пацярпеўшым ад грабяжу ў Брэсце яўрэям з кожнага суседа па "трыццаць шэлягаў". Але справа ў тым, што гэтая крыніца з'яўляецца копіяй канца XVI ст., калі пісар велікакняжацкай канцылярыі, які рабіў копію, замяніў слова "пенязь" на новае "сучаснае" слова "шылінг або шэляг". В.Рабцэвіч упамінае фальшывыя вендзенскія (лівонскія) шылінгі, якія былі зроблены ў 1493 г. у Полацку агульнай вагой у "паловіну ласты", што, паводле падлікаў В.Рабцэвіча, склала каля 900 000 манет (ад 800 000 да 960 000 экз.). З гэтых двух паведамленняў В.Рабцэвіч і А.Дзярновіч робяць вывад, што "шылінгі" былі распаўсюджанымі манетамі на тэрыторыі Беларусі ў XIV—XV стст. Аднак вядома, што ў адрозненне ад "менш распаўсюджаных" пражскага (шырокага) гроша і літоўскага пенязя шылінгі зусім невядомы ў беларускіх скарбах XIV—XV стст., што не пацвярджае іх масавасць і папулярнасць у насельніцтва.

Другое. Ні адна пісьмовая крыніца (летапісы, дагаворныя і гандлёвыя акты і г.д.), складзеныя ў XIV—XVI стст., толькі не познія копіі, не даюць нам тэрмінаў "шылінг" або "шэляг". Вядома толькі назва "пенязь", якая выкарыстоўвалася і ў народнай мове. Пад гэты тэрмін падыходзілі ўсе еўрапейскія грашовыя знакі (манеты), якія адпавядалі ці былі падобнымі літоўскаму дэнарыю (пенязю).

Трэцяе. Срэбныя манеты, якія называлі "шылінгам", упершыню адчаканілі ў 2-й палове XIV ст. у Прусіі (Тэўтонскі ордэн), Франконіі і Швабіі. Першыя шылінгі важылі 1,3—1,6 г. і ўтрымлівалі ў сабе 1,2—1,3 г серабра, а ў Любеку шылінгі 1365—1370 гг. наогул важылі 4,1 г (3,84 г серабра) і канкурыравалі па каштоўнасці толькі з пражскімі грошамі. Але гэтыя манеты не ўпамінаюцца ў беларуска-літоўскіх пісьмовых крыніцах і не сустракаюцца ў беларускіх скарбах. Шылінгі пачалі моцна абясцэньвацца ў канцы XY — пачатку XVI ст.ст. Але ні ў якім разе яны не былі даражэйшыя за літоўскія пенязі, якія чаканілі ў Вільні пасля 1492 г.

Чацвёртае. У нумізматычнай літаратуры часцей за ўсё выкарыстоўваецца афіцыйная дзяржаўная назва манеты па ўказу (пісьмовы дакумент) ці па надпісу на ёй — дэнарый, солід, шылінг, шэляг і г.д. Народ жа, як правіла, называў гэтыя манеты прывычнай назвай: у Вялікім княстве Літоўскім, у тым ліку і на тэрыторыі Беларусі, — пенязем, у Польшчы з XVI ст. шэлягам і г.д. Вывучаючы грашовы абарот Польшчы XV—XVII ст.ст., можна высветліць, адкуль і калі пайшоў

ДЗЕВЯТАЕ НЕБА



## ТЭРОР НА ФІЛІПІНАХ

*Невядомы кінуў самаробную выбуховую прыладу ў натоўп людзей на цэнтральнай плошчы горада Ісулан на філіпінскім востраве Мінданао. Вынік — 9 забітых і 22 параненыя.*

На суседнім востраве аналагічнай выбуховай прыладай быў пашкоджаны ўрадавы будынак. Паліцыя вядзе расследаванне.

## "ВОРАП НАРОДА" ПА-ЕГІПЕЦКУ

*У Егіпце прыгавораны да смяротнага пакарання тры чалавекі, якія абвінавачваюцца ў змове з мэтай забойства прэзідэнта Мубарака.*

Усе трое асуджаных — былыя ваенныя.

## ЗАБІТЫ ПАЛІЦЭЙСКІЯ

*У Дакары забіты тры паліцэйскія.*

Забойства адбылося ў час беспарадкаў, учыненых апазіцыяй. Маніфестанты выступаюць супраць рэзкага пагаршэння ўзроўню жыцця насельніцтва з-за імклівай дэвальвацыі мясцовай грашовай адзінкі.

## НЕБЯСПЕЧНЫЯ ВУЛІЦЫ БРЫТАНІІ

*У Вялікабрытаніі створана грамадская арганізацыя, мэта якой — гарантаваць бяспеку на вуліцах.*

Арганізацыя створана, у асноўным, для асоб азіяцкага паходжання. Менавіта на іх у апошні час на вуліцах Англіі пачасціліся хуліганскія напады. Члены арганізацыі не ставяць сваёй мэтай замену паліцыі, а толькі аказваюць дапамогу ў навядзенні парадку. Штогод у Вялікабрытаніі ўчыняецца каля 130 тыс. злачынстваў па расавых матывах, гэта значыць адно злачынства кожныя чатыры хвіліны.

## ПАПА СУПРАЦЬ "БЛАКІТНЫХ"

*Папа Рымскі Іаан Павел II выступіў у Ватыкане з асуджэннем падпісанага ў Страсбургу і прынятага шэрагам еўрапейскіх краін закона аб гомасексуальных шлюбах.*

На думку папы, сямейная пара з двух мужчын або дзвюх жанчын не можа быць сапраўднай сям'ёй.

## "СМЕРЦЬ АРАБАМ"

*Пад такімі лозунгамі ў Іарданіі прайшлі масавыя беспарадкі яўрэйскага насельніцтва ў знак пратэсту супраць забойства арабамі цяжарнай яўрэйскай жанчыны.*

Удзельнікі беспарадкаў блакіравалі дарогу, якая злучае Іарданію з Тэль-Авівам.

## ВЫКРАДАЛЬНІКІ ДЗЯЦЕЙ

*15 пакістанскіх дзяцей усё яшчэ знаходзяцца ў руках афганскіх выкрадальнікаў, якія захапілі аўтобус з імі ў Пешавары, а затым перавезлі дзяцей у пасольства Афганістана ў Ісламабадзе.*

Выкрадальнікі патрабуюць, каб пакістанскі ўрад паставіў у Кабул прадукты і медыкаменты, адкрыў граніцу паміж Афганістанам і Пакістанам для пераходу афганскіх бежанцаў і перадаў ім 5,5 мільёна даляраў за выдачу заложнікаў.

## ПІКАСО – "ПАДРЫЎНЫ ЭЛЕМЕНТ?"

*Іспанскім мастаком і скульптарам Пікасо ў свой час цікавіліся сакрэтныя службы абедзвюх супердзяржаў.*

КДБ, у прыватнасці, прызнаваў яго карціны "занадта анархічнымі" і "варожымі савецкаму народу". ЦРУ і ФБР таксама ўгледзелі ў яго творах "падрыўны характар".

■

# ЁСЦЬ ПЫТАННЕ!

## Хто едзе за мяжу?

*"Раскажыце, калі ласка, пра новыя ўмовы выезду за мяжу, прынятыя з 1 студзеня бягучага года.*

А.РАМАНАЎ, г.Мінск."

Новыя ўмовы выезду за мяжу наступныя. Цяпер замест разавага афармляецца шматразовы выезд за мяжу — на адзін, два... пяць гадоў па жаданню выязджаючага. Аб чым у загранпашпарце ставіцца новы штампік. За гэты запіс неабходна заплаціць мінімальную зарплату, калі выезд аформлены на год, і па мінімальнай зарплаце на кожны год, на які афармляецца дазвол. Аднак, для выезду ў капіталістычныя краіны неабходна мець яшчэ запрашэнне і аформіць візу ў адпаведным пасольстве. Такія ж правілы захоўваюцца і для паездкі ў краіны Прыбалтыкі. Усе турыстычныя фірмы страцілі цяпер права афармляць дакументы для выезду за мяжу.

## Нямецкі дог вышэй за каня

*"Вельмі люблю сабак. Цікаўлюся рознымі пародамі. Але не ведаю, праўда, якія сабакі лічацца самымі буйнымі і якія самымі малымі?*

І.БУДЗЕЙКА, вучань восьмага класа, Клецкі раён."

Самымі буйнымі пародамі сабак з'яўляюцца англійскія догі і сенбернары, якія важаць у сярэднім 77—91 кілаграм. Рэкорд сярод іх належыць сапраўднаму суперцяжкавагавіку па мянушцы Зорба — 144 кілаграмы. А вось самым высокім зарэгістраваны нямецкі дог, што вырас да 106,6 сантыметра, што ў тры разы вышэй за 38-сантыметровага каня, вырашчанага на адной з амерыканскіх ферм.

Самым жа маленькім лічыцца тэр'ер велічынёй з запалкавы пачак і вагой у 113 грамаў!

Магу нават болей сказаць. Чэмпіёнамі сярод паляўнічых за наркотыкамі з'яўляюцца дзве бельгійскія аўчаркі Рокі і Барка, што на службе ў амерыканскіх паліцэйскіх штатаў Тэхас, якія кантралююць адзін з какаінавых шляхоў. Толькі ў 1988 г. з дапамогай сабак было захоплена 989 партый наркотыкаў на суму 182 мільёны даляраў. Работа чацвераногіх паліцэйскіх настолькі эфектыўная, што мексіканскія кантрабандысты гатовы заплаціць за іх галовы 30 тысяч даляраў. За высокі прафесіяналізм Рокі і Барка прысвоена званне сяржантаў. Рэкорды па затрыманню злачынцаў пабіла нямецкая аўчарка, затрымаўшы 253 чалавекі і знайшоўшы 330 тайнікоў.

## Зубныя пратэзы для донараў

*"Якімі льготамі карыстаюцца донары?*

Л.МЯСНІКОВА, г.Віцебск".

Зараз толькі тыя донары, якія здалі кроў 40 разоў і болей, маюць права карыстацца льготамі: пазачарговым абслугоўваннем у клініках і пазачарговым пратэзіраваннем зубоў. У дзень здачы крыві ўсім донарам, незалежна ад донарскага "стажу", прадастаўляецца выхадны дзень. Яшчэ адзін выхадны даецца на наступны дзень, але па жаданню донара ён можа быць прыбаўлены да чарговага водпуску. Раней за здадзеную кроў кармілі бясплатным абедам, а цяпер за 100 мілілітраў крыві атрымліваеш 1800 рублёў. Максімальная доза ўзятай крыві не можа перавышаць 490 мілілітраў. Як сказалі нам у Рэспубліканскай станцыі пералівання крыві, Вярхоўным Саветам дагэтуль не ўстаноўлены статус донара, гэта пытанне чакае свайго вырашэння ўжо тры гады, а добраахвотных донараў тым часам становіцца ўсё менш.

## З газавай зброяй — на "ты"

*"Адкажыце, калі ласка, што трэба зрабіць для набыцця газавай зброі?*

А.КОЛАСАЎ, г.Мінск."

З такім пытаннем мы звярнуліся да М.Галашава, кіраўніка прэсбюро Мінскай Асацыяцыі "Насельніцтва за бяспеку". Вось што ён адказаў.

У сакавіку 1993 г. Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь прыняў спецыяльную пастанову аб газавай зброі, для рэалізацыі якой 16 жніўня выдадзены Загад міністра ўнутраных спраў № 158 і прыняты рашэнні Мінгарвыканкама № 545 ад 30.09.93 і № 616 ад 25.10.93. У пералічаных дакументах дадзены адказы на ўсе пытанні закранутай тэмы, таксама растлумачваюцца правілы набыцця газавай зброі, захавання, нашэння і выкарыстання ў мэтах абароны.

Грамадзянін для атрымання дазволу на набыццё газавай зброі павінен прайсці курсы пры Цэнтры падрыхтоўкі Асацыяцыі "Насельніцтва за бяспеку".

На курсах слухачы паглыбляюць свае веды пра газ, вучацца страляць, не забіваючы таго, хто нападае, і абараняць сябе. Ім могуць спатрэбіцца набытыя тут веды па аказанню першай даўрачэбнай дапамогі пры паражэнні ірытантамі. Яны вывучаюць сучасныя прававыя асновы, якія рэгламентуюць парадак набыцця, захоўвання, нашэння, уліку і выкарыстання спецыяльных сродкаў самаабароны. Практычныя стрэльбы на курсах замацоўваюць атрыманыя веды і даюць упэўненасць уладальнікам зброі пры самаабароне.

Колькасць жадаючых трапіць на курсы расце. Яны пачалі працаваць 4 лістапада 1993 г. А на 1 студзеня 1994 г. іх ужо скончылі 1030 чалавек (62 навучальныя групы). Толькі ў студзені гэтага года пасведчанні атрымалі 894 слухачы курсаў.

Начальнік Цэнтра А.Кравец і яго намеснік І.Шуцько ў парадку самакантролю і далейшага паляпшэння навучальнага працэсу правялі анкетаванне 60 выпускнікоў. 98 працэнтаў з іх ліку адабраюць навучальную праграму, але, пры гэтым, палавіна прапаноўвае павялічыць час на прававую падрыхтоўку.

Слухачы цікавяцца будучай міжнароднай выставай-кірмашом "Бяспека, крыміналістыка, правапарадак", якая адбудзецца ў Мінску з 1 па 4 сакавіка 1994 г. Наведванне павінна пашырыць уяўленне аб існуючых сродках самааховы і дапамагчы выбраць і набыць неабходныя.

## Усынаўленне — справа сур'ёзная



*"Мы жывём разам з жонкай ужо 14 гадоў. Але не даў нам Бог сваіх дзяцей. Вось мы і вырашылі ўсынавіць чужое. Што нам трэба рабіць для гэтага?*

Сям'я Л., г.Пінск".

Для ўсынаўлення дзіцяці Вам трэба звярнуцца ў выканкам раённага, гарадскога ці раённага ў горадзе Савета народных дэпутатаў па месцы Вашага жыхарства ці па месцажыхарстве дзіцяці. Выканкам выносіць рашэнне аб усынаўленні, калі лічыць, што яно будзе адпавядаць інтарэсам усынаўляемага.

Усынавіцелямі могуць быць толькі паўналетнія асобы, якія здольны даць дзіцяці належнае выхаванне і маюць для гэтага неабходныя ўмовы. Пажадана, каб усынавіцелямі былі муж і жонка разам. Аднак усынавіцелем можа быць і адна асоба, нават калі яна знаходзіцца ў шлюбе. Тады трэба згода на ўсынаўленне жонкі ці мужа ўсынавіцеля.

Не могуць быць усынавіцелямі асобы, пазбаўленыя бацькоўскіх правоў, прызнаныя ва ўстаноўленым парадку недзеяздольнымі або абмежаванымі ў дзеяздольнасці, а таксама асобы, якія ўжо былі ўсынавіцелямі, але яно было адменена па прычыне неналежнага выканання імі сваіх абавязкаў.

Для ўсынаўлення патрэбна таксама згода бацькоў дзіцяці, калі яны не пазбаўлены бацькоўскіх правоў, і згода самога дзіцяці, калі яно дасягнула дзесяцігадовага ўзросту.

Па жаданню ўсынавіцеля дзіцяці прысвойваецца яго прозвішча, а таксама імя па бацьку ў адпаведнасці з імем усынавіцеля. Па іх жаданню ўсынавіцелі могуць быць запісаны ў кнізе запісаў аб нараджэнні як бацькі ўсыноўленага.



**«НОТНЫ АРКУШ» N 4 (239)**

Вядучы — Вітаўт МАРТЫНЕНКА

Тэл. 68-29-26

## Фанатэка

Вось ён, той славуты брытанскі кампакт-дыск беларускага рок-гурта. Ад першых узрушэнняў і здзіўленняў мінуў час, таму ёсць шанц больш дэталёва спыніцца на тым, што больш трывала ўрэзалася ў свядомасць.

Па-першае, высвятляецца, што і англамоўны альбом можа выразна заяўляць пра Беларусь, калі яго стварылі нацыянальна свядомыя беларускія музыкі. Ды хоць бы сама назва — "Krama". Брытанскаму слухачу яе цяжка не заўважыць, і ён рыхтуецца да чагосьці нязвыклага для сябе. Калі ён і сягаў цікаўнасцю далёка на ўсход, дык усё адно ж яго запрашаюць не ў "sklep", не ў "магазин", а менавіта ў "Краму", і гэта само па сабе нешта азначае.

**"Крама" "ГАРЭЛКА З ІЛЬДОМ" RTX records, 1993**

Праўда, выдаўцы ва ўкладзеным буклеце невыпадкова наракаюць на кансерватызм сваіх брытанскіх бюракратаў, якія не дазволілі беларускім музыкам рэалізаваць шырэйшы кантракт у самой Вялікабрытаніі. Кансерватыўныя, зрэшты, і самі выдаўцы. Яны пішуць "Byelorussia", калі ўжо афіцыйна прынята ў сусветнай практыцы прамая транслітэрацыя з мовы арыгінала — "Belarus". Дый пра саму Беларусь яны забываюцца, даючы зыходныя звесткі: гукарэжысёр у Англіі — Джон Спэнс, гукарэжысёр у Расіі — Аляксандр Белізяк. А што, каб іхнюю Англію назваць Уэлсам?

І ўсё ж, менавіта "Крама" прымусіла брытанцаў загаварыць пра Беларусь, даючы ў аўтарскай анатацыі на свой альбом звесткі аб тым, што беларусы складаюць сабой асобны народ, які ў складзе былога СССР не прыкмячаўся пад прэсінгам расейскай экспансіі.

Праўда, гаворка гэтая, зазначым, пакуль несвядомая. Бо, шукаючы адметную назву альбому, каб падкрэсліць этнічны каларыт, брытанцы спыніліся... Ну, чым вызначаецца "...russia", хоць і "Byelo..."? Ну, зразумела, "Russian vodka". Так і з'явілася "Vodka on Ice", хоць няма ў песнях гурта нават згадкі пра гэта. А каб яны самі дадумаліся да такой назвы, дык была б хутчэй "Harelka on Ice".

Творы, якія ўвайшлі ў гэтае выданне, паходзяць з беларускамоўнага альбома "Хворы на рок-н-рол" (1992), з ранейшых "рокісаўскіх" запісаў і нават з рэпертуару "Бонды". Усе гэтыя творы аб'ядноўвае кампазітар і вакаліст І.Варашкевіч: "Бяжы, хлопец", "Бэйбі", "Стэфка", "Будзь разам з намі", "Чыкаганайтс" і іншыя (усяго дзесяць). На англійскую мову іх пераклаў калега з гурта "Зіндан" Аляксей Казлоўскі.

І яшчэ: мастацкая аздоба альбома настолькі ўдалая, што цяжка хоць крыху не спыніцца на ёй асобна. На вокладцы ў шрыфтавой абрамоўцы — дзіўная рокерка гадоў васьмідзесяці з замілаваннем выпісвае пасажы на фірмовай электрагітары. Здымак дынамічны і натуральны, але кантраст шэрага пазамоднага паліто і хусткі з крутой гітарай лепшых заходніх фірм узрушвае эмацыянальны стан.

Здымак, ясна, пастановачны. "Крамчукі" самі адшукалі гэтую бабульку дзесьці на мінскім Камароўскім рынку. За пару мінімальных месячных зарплат яна згадзілася папазіраваць у любой позе. Яе навучылі правільна трымаць гітару, і бабулька выкручвалася з ёй, пакуль сярод мноства кадраў не ўдалося спыніцца на адным, які і бачыце вы на здымку. Вось так: добрая гарэлка лепей гарыць на лёдзе.

■

## Кнігарня "НА"

### "ТЭАТР-СТУДЫЯ "ЗНІЧ", Наваполацк, 1993

Летась мы прадстаўлялі нашым чытачам аўдыёкасету пад такою ж назвай — "Тэатр-студыя "Зніч", якую падрыхтавала і распаўсюджвае так званая "Гасцёўня "У Анісы", што нядаўна распачала дзейнасць у Наваполацку. Сённяшні аб'ект нашай увагі — рэкламны буклет, выдадзены названай суполкай.

Само гэтае выданне сведчыць, што ў рэгіёне ёсць і пра што пісаць, і каму, калі браць пад увагу папулярную музыку. Скажам, пра творчую актыўнасць у Брэсце ў гэтай галіне зусім не чуваць. Калі ж параўноўваць з Мінскам, дык у сталіцы знайшлося б нямала цікавых калектываў, але ўсе яны працуюць паасобку, кожны на сваю карысць, таму, як кажуць, каму патрэбна рэкламаваць іх усіх разам?..

У Наваполацку наўрад ці кожны паасобку здолеў бы выдаць свой уласны буклет або постэр. Аб'яднаныя ў тэатры-студыі "Зніч", яны не толькі сталі больш прыкметнымі, але і больш жыццяздольнымі ў наш нялёгкі час.

Пасля кароткай гісторыі тэатра-студыі (яна, дарэчы, яшчэ не доўгая, ад 1993 года, хоць і багатая ўжо на падзеі) ідзе прадстаўленне артыстаў і калектываў тэатра. Многія з іх даволі вядомыя: Сяргей Анішчанка (Аніса), "Ален", "Мілавіца" і гэтак далей. Іхнія маланкавыя біяграфіі побач з шыкоўнымі партрэтамі і эфектнымі здымкамі канцэртных праграм тэатра ствараюць вобраз ажыўленага культурнага жыцця ў рэгіёне, які мае сваіх выдатных зорак.

Разнастайны і спектр сцэнічных амплуа наваполацкіх поп-артыстаў. Гэта бард Сяргей Казлоў і інструментальная джаз-рокавая каманда "Крокам руш", гумарыстычны дуэт "Гоп-шоу-компані" і паэт Васіль Здановіч... Пра ўсё, што ахоплівае рэкламны буклет на сваіх 16 старонках, не раскажаш у кароткай анатацыі. Тым больш, што задача наша — прадставіць сам буклет.

Ілюстрацыйны матэрыял выдання — не толькі партрэты выканаўцаў ды рэпартажныя фотаздымкі і калажы з канцэртаў, але і сяброўскія шаржы, карыкатуры. На тыльнай бачыне вокладкі ў музычна-каліграфічнай абрамоўцы — выява непаўторнай полацкай Сафіі, — як сімвал повязі самых старажытных здабыткаў нацыянальнай культуры і самых сучасных.

Канешне, узорнасцю паліграфічнага выканання гэтае наваполацкае выданне пахваліцца не можа, але выразна дэманструе, пра каго заўсёды забывае наш кніжны рынак: пра аматараў музыкі, наведвальнікаў канцэртных залаў і клубаў. Прынамсі ў наваполацкім тэатры-студыі "Зніч" вы цяпер не будзеце мець нагоды хлопаць вушамі, калі будзеце гасцяваць "У Анісы". Маючы рэкламны буклет, заўсёды будзеце ў курсе спраў. Натуральна, выданне гэтае беларускамоўнае, бо і знаёміць з беларускамоўнымі зоркамі.

Альдона ЕРМАКОВІЧ.

## з гісторыі Беларусі

# ГРОШЫ

тэрмін "шэляг". Справа ў тым, што на тэрыторыі сучаснай Польшчы з XIV—XV ст.ст. існавалі "незалежныя" анямечаныя княствы: у Памор'і (Памераніі) — Штэцінскае, Памяранскае і інш.; у Сілезіі — Лігніц і Брыг, Саган і інш. Яны чаканілі манеты па нямецкай (люблінскай, франконскай, прускай і г.д.) ці аўстрыйскай стапе і пераймалі "нямецкія" назвы грашовых знакаў. У гэтых дзяржаўных утварэннях чаканілі "шылінгі", якія, трапляючы ў Каронныя (польскія) землі, атрымалі назву "шэляг". Хутчэй за ўсё, пасля Люблінскай уніі 1569 г., калі адбылося зліццё Вялікага княства Літоўскага і Польскага каралеўства ў Рэч Паспалітую і пачалося прымусовае ўкараненне па каралеўскаму ўказу польскай грашовай тэрміналогіі, у прыватнасці — назвы "шэляг".

А.Дзярновіч рэзка выступае супраць выкарыстання назвы "капейка", матывуючы гэта тым, што, маўляў, гэтая грашовая адзінка моцна абясцэнілася і з цягам часу ператварылася са срэбнай манеты ў медную. Але А.Дзярновіч, відаць, не ведае, што рускія "капейка" і "дзеньга" выкарыстоўваліся з XVI ст. і на тэрыторыі Полаччыны, Віцебшчыны і Магілёўшчыны. Гэта пацвярджаюць скарбавыя і адзіночныя знаходкі гэтых манет. Запісы Магілёўскага магістрата ўказваюць на шырокае выкарыстанне рускіх срэбных і медных манет на тэрыторыі ўсходняй Беларусі ў XVII—XVIII ст.ст.

З уключэннем у 1772, 1793, 1795 г.г. тэрыторый Беларусі і Літвы ў састаў Расійскай імперыі насельніцтва даволі лёгка прыняло рубель і капейку, паколькі яны былі больш значнымі грашовымі адзінкамі і знакамі, чым польскія талер і грош.

"Нацыянальнасць" грашовай адзінкі вельмі цесна звязана з этнасам, які карыстаўся ёю. Ёсць сама меней тры пункты погляду, калі сфарміравалася беларуская народнасць. Гісторыкі-"дэмакраты" заяўляюць, што беларуская народнасць пачала фарміравацца ў IV—V ст.ст. н.э. і да X—XI ст.ст. фактычна гэты працэс завяршыўся.

Паводле другой думкі, гэты працэс завяршыўся ў XIII—XIV ст.ст. Беларускі этнограф, доктар гістарычных навук М.Піліпенка лічыць, што фарміраванне беларускага народа завяршылася ў XV—XVI ст.ст. (час."Беларуская мінуўшчына". 1993 № 1 с.7—8.). Тэрмін "Белая Русь" вядомы з XVI ст. (у М.Піліпенкі — з 1-й паловы XVII ст.), тэрмін "беларусцы" і "беларусы" — з XVII ст. Вядома, што народ тады лічыцца сфарміраваным, калі, акрамя адзіных тэрыторыі і мовы, ёсць і свая саманазва. Згодна з меркаваннямі М.Піліпенкі, гэта— XVII ст. На пэўным этапе грамадскага і эканамічнага развіцця народа, у яго можа з'явіцца свая грашовая сістэма і, адпаведна, свая грашовая адзінка. Гісторыкі-"дэмакраты", заяўляючы, што беларуская нацыя і дзяржаўнасць існуюць з сярэдзіны 1 тыс. н.э., чамусьці лічаць, што нацыянальнай грашовай адзінкай беларусаў з'яўляецца талер, які з'явіўся на гэтай тэрыторыі толькі ў сярэдзіне XVI ст. Яны тым самым ігнаруюць сама меней 7 стагоддзяў (з 862 г.) эканамічнай гісторыі народаў, якія пражывалі на тэрыторыі Беларусі. Асабліва яны ігнаруюць "рубель", заяўляючы, што ён быццам бы запазычаны за межамі Беларусі. Але як ён мог прыйсці з-за межаў Беларусі, калі з'явіўся амаль адначасова з наўгародскім у канцы XIII ст. і развіваўся на сваёй метралагічнай аснове. Да таго ж у 2-й палове XIII ст. — 1345 г. існавала практычна незалежнае Віцебскае княства, чыё эканамічнае развіццё і размяшчэнне паміж магутнымі эканамічнымі цэнтрамі (Ноўгарад, Смаленск, Кіеў і Прыбалтыка з г.Рыгай) патрабавалі нейкага грашовага эквівалента, што з цягам часу вылілася ў афармленне сваёй уласнай грашова-вагавай сістэмы, заснаванай на рублі і (пражскім) грошы. Талер жа быў прымусова ўкаранёны ў эканоміку Вялікага княства Літоўскага і, адпаведна, тэрыторыі сучаснай Беларусі. Народнасць фарміруецца на добраахвотных асновах і ніколі — прымусовым шляхам. І нацыянальныя рысы, розныя матэрыяльныя прадметы (рэчы) набываюцца паступова з умовай, што яны патрэбныя і карысныя для народа. Таму "беларускі" народ быў верным сваёй прывычнай грашовай адзінцы — "рублю" нават у XVII—XVIII ст.ст., калі былі моцнымі пазіцыі талера. Рубель, нават разліковы, мог мяняцца ў вазе і намінале, але назва яго заўсёды захоўвалася.

Аб узаемасувязі разліковага рубля ў Вялікім княстве Літоўскім і Рэчы Паспалітай з рэальным і разліковым рублём Расіі практычна няма асобных даследаванняў. Але дакладна вядома, што пазіцыі расійскага рубля ўмацаваліся на польска-літоўскім (а таксама беларускім і заходне-ўкраінскім) рынку пасля Палтаўскай бітвы 1709 г., паколькі польскі кароль Аўгуст II Моцны быў саюзнікам Пятра I. Аб актыўным функцыяніраванні рубля, як грашовай адзінкі і знака, на тэрыторыі Беларусі ў XVII—XVIII ст.ст. ёсць звесткі ў Магілёўскіх магістратных кнігах. Рубель быў моцны сваёй каштоўнасцю, ён меў стабільныя вагу і пробу ў параўнанні з еўрапейскім талерам, які пастаянна абясцэньваўся. У Рэчы Паспалітай чаканілася вельмі мала сваіх талераў, і яны былі неканкурэнтнымі ў адносінах да рубля.

Пры ўключэнні Беларусі, Літвы і заходняй часткі сучаснай Украіны пасля трох раздзелаў Рэчы Паспалітай у 1772, 1793, 1795 гг. у склад Расійскай імперыі расійскі рубель і капейка даволі лёгка і арганічна ўключыліся ў мясцовы грашовы абарот, паколькі тут яны выкарыстоўваліся здаўна.

Апошняе пытанне датычыць заявы, что нібыта ўвядзенне грашовай адзінкі аднолькавай па назве з чужой (у нашым выпадку з расійскім рублём) будзе ўшчамляць суверэнітэт Беларусі. Гэта зусім няправільна. У свеце ёсць вельмі многа выпадкаў, калі розныя дзяржавы маюць грашовыя адзінкі з аднолькавай назвай, але розныя па курсу. Напрыклад: Германія і Фінляндыя — марка; Польшча і Аўстрыя — грош; Францыя Бельгія, Швейцарыя і шэраг афрыканскіх дзяржаў — франк; ЗША, Канада, Аўстралія і Новая Зеландыя — даляр; Швецыя, Нарвегія, Данія, Ісландыя і Чэхія — крона і г.д. І чамусьці ні адна з гэтых краін не лічыць сябе ўшчэмленай у суверэнітэце. Цяпер узаемасувязь валют адбываецца незалежна ад іх назвы. Аднолькавыя назвы рускага і беларускага рубля не павінны палохаць, тым больш, што ў іх розны курс. Ва ўсім свеце ствараліся і ствараюцца валютныя зоны і саюзы — франкавая зона, фунтавая зона, даляравая зона і г.д. Заканамерным таму з'яўляецца імкненне суверэнных дзяржаў СНД стварыць адзіную эканамічную і валютную (грашовую) прастору. Гэта адпавядае не толькі інтарэсам дзяржаў, але і асобных людзей.

Існуе таксама меркаванне, што пры аднолькавай назве грашовай адзінкі ў Беларусі і Расіі, прывядзе да знікнення беларускай валюты і, з цягам часу, страты суверэнітэту рэспублікі. Але гэта абсалютна няправільна, паколькі ў свеце існуюць дзяржавы, якія маюць у абароце валюту суседніх, больш магутных палітычна і эканамічна, дзяржаў. Напрыклад, у Манака выкарыстоўваюцца французскія франкі, у княстве Ліхтэнштэйн — швейцарскія франкі, у Рэспубліцы Сан-Марына і Ватыкане — італьянскія ліры, у княстве Андора — французскія франкі і іспанскія песеты, у Панаме — даляр ЗША і г.д. Гэтыя дзяржавы выпускаюць толькі сувенірныя ці калекцыйныя манеты і не лічаць, што іх суверэнітэт ушчэмлены. У хуткім часе, відаць, будзе падпісана расійска-беларускае пагадненне аб аб'яднанні грашовых сістэм Беларусі і Расіі ў адзіную. Гэта дасць магчымасць стварыць роўныя ўмовы для гандлю, фарміравання адзіных цэн у абедзвюх дзяржавах, уводу адзіных цэн на энерганосьбіты і іншыя рэсурсы і адмены экспартнай мытнай пошліны па ўзаемнаму гандлю. Усё гэта спрыяльна адаб'ецца на беларускай эканоміцы. Ну, а наконт беларускіх грошай можна прапанаваць вопыт іншых краін, дзе выпускаюць сувенірныя банкноты і манеты.

Кароткі экскурс у гісторыю грашовага абароту ў XIII—XVIII ст.ст. на тэрыторыі Беларусі і нумізматычнай тэрміналогіі паказвае, што беларусам усё ж бліжэй тэрміны "рубель" і "капейка", "пенязь" (у XIV—XVI ст.ст.), а не "талер" і "шэляг". Наўрад ці прымусова ўкаранёныя ў свядомасць людзей тэрміны і назвы могуць стаць "народнымі", а тым больш "нацыянальнымі". Увесь ход гістарычнага і эканамічнага развіцця на тэрыторыі Беларусі абумоўлівае лагічнасць захавання і выкарыстання грашовай сістэмы "рубель-капейка". Каардынацыі ж грашовых сістэм Расіі і Беларусі не трэба баяцца, паколькі гэта будзе на карысць не толькі беларускай эканоміцы, але і для беларускага народа. Такія прыклады мы бачым і за мяжой.

## Гіт-парад

# Куды цягне нас цягнік?

*Дваццаць восьмы выпуск гіт-парада "ЧЗ-Liberty" вывеў у лідэры (о, якая іронія лёсу!) кампазіцыю з альбома "Мроі" "Дваццаць восьмая зорка". Твор мае назву "Кастрычніцкі цягнік" і ён прагучыць на кароткіх радыёхвалях 27 лютага. А вось што высветлілася пад час падсумавання галасоў.*

Прыхільнікі творчасці "Мроі" знайшліся, аказваецца, не толькі ў самых розных кутках Беларусі, бо прыйшоў нават ліст з Літвы. Валдас Жаўневічус піша лаканічна: "Бач ты, люблю я "Мрою". Няхай бы перамагла. Удачы ёй!". Дарэчы, гэты ліст, хоць і з невялікімі памылкамі, быў напісаны па-беларуску, таму і хацелася б звярнуць увагу на інтэлігентнасць літоўскага сябра, які ведае, што ў гасцях трэба паважаць статут гаспадара.

Нарэшце, прыкметны рывок зрабіла народная песня "Чаму ж мне не пець?" у выкананні М.Забэйды-Суміцкага. А то надта ж доўга затрымалася на чацвёртай пазіцыі. Кінуцца наўздагон лідэраў памаглі ёй лісты Тамары Лапцёнак з Брэста, Юрыя Хмырова з Мінска, Уладзіміра Лазінчыка ажно з Адэскай вобласці Украіны і многіх-многіх іншых прыхільнікаў беларускага фальклору і класікі.

Нельга не звярнуць увагу на цікавыя і слушныя разважанні Людмілы Манілавай з Гомеля: "Ніколі не думала, што барды могуць на роўных спаборнічаць з рок-гуртамі. Бачу, як узнімаецца па лесвіцы мой любімы бард Андрусь Мельнікаў і пераконваюся, што такія песні таксама канкурэнтаздольныя. Ну дык перамогі табе, Андрусь!".

Адно нагадаем, што, акрамя аршанскага барда, цудоўна вытрымлівалі канкурэнцыю з рокерамі мінчук Алесь Камоцкі, гамяльчанка Вальжына Цярэшчанка і іншыя (глядзіце ранейшыя табліцы нашага гіт-парада). Галоўнае, відаць, не жанр, а здольнасць выканаўцы знайсці месца ў сэрцы слухача.

Вось і наш студзеньскі дэбютант Едрусь Акулін гэтым разам прыдбаў сабе яшчэ некалькі дзесяткаў новых галасоў. Адзін з іх — школьнік з Рэчыцы Міхась Малайцоў — так аргументуе свой выбар: "Я не люблю сумных песень, але і грукат цяжкіх каманд парадкам надакучыў. У песнях Акуліна я адчуў і душэўны спакой, і добры рытм жыцця. Ды й у ягоных рытмах адчуваецца, што гэта патэнцыяльны рокер".

Што ж, не ведаю як у Рэчыцы, але гамяльчукі, відаць, памятаюць гурт "БАСКІ", дзе Едрусь Акулін яшчэ ў 80-я гады распачынаў нацыянальную рок-плынь. Так што Міхась праявіў пільную назіральнасць.



Улічваючы ўсе змены ў табліцы за мінулы месяц, лютаўская (№ 28) гіт-дзесятка выглядае наступным чынам:

1. "Кастрычніцкі цягнік" (муз.і сл.калектыву). "Мроя".
2. "Чаму ж мне не пець?" (беларускі фальклор). Міхась Забэйда-Суміцкі.
3. "Песня падарожніка" (Я.Маркаў — С.Кныш). "Бонда".
4. "Вяртанне Булак-Балаховіча" (муз.і сл. А.Мельнікава). Андрусь Мельнікаў.
5. "Дарога ў рай" (муз.і сл. С.Хамякова). "Ален".
6. "Жаль не пакіне мяне" (муз.і сл. С.Мядзведзевай). Лана Медзіч.
7. "Краіна талераў" (муз.і сл. З.Сідаровіча). "Камэлот".
8. "Пяшчота ліўня" (муз.і сл. Е.Акуліна). Едрусь Акулін.
9. "Забыты свет" (І.Варашкевіч — З.Лукашук). "Рокіс".
10. "Не пі, сынок" (муз. і сл. В.Шалкевіча). Віктар Шалкевіч.

Вось з такой раскладкай мы развітваемся з зімой. Бадай, нават у лютым беларуская гіт-дзесятка не была надта халоднай. Сваю порцыю цеплыні ў ёй знойдуць і фанаты рок-музыкі, і прыхільнікі бардаўскай песні, і тыя, каму падабаецца фальклор. Зразумела, не кожнага задавальняе месца ягонага куміра ў гіт-дзесятцы. Але гэта ўжо залежыць выключна ад вашай асабістай актыўнасці. Пішыце самі лісты, шукайце сяброў і аднадумцаў ды адсылайце нам сваю тройку лідэраў не пазней за 15 сакавіка. Адрасы тыя ж: RL/RFE, postfach 221425, D-8000, Munchen, Germany, а таксама: 220013, Мінск, вул.Б.Хмяльніцкага, 10а, "Чырвоная змена".

Да сустрэчы ў сакавіку!

Вінцук ГУНЕНКА.

Фота М.БУДЧАНІНА.

